# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Чацвер, 1 снежня 1994 года | № 129 (10829) | Цана 80 руб.


"Прамая лінія"

*А.І.Цішкевіч:*

## САЦЫЯЛЬНА ПАДТРЫМАЦЬ ЛЮДЗЕЙ — НАША НАЙПЕРШАЯ ЗАДАЧА

**Як мы паведамлялі ўжо, "прамая лінія" са старшынёй аблвыканкома, дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі А.І.Цішкевічам, арганізаваная "Мінскай праўдай", прайшла пры высокай актыўнасці. Заклапочаныя шматлікімі праблемамі жыхары вобласці і г. Мінска шукаюць іх вырашэння разнастайнымі шляхамі і ў розных інстанцыях. Гэтым тлумачыцца іх зацікаўленасць у "жывой" размове з кіраўніком абласной выканаўчай улады.**

**Таму яшчэ загадзя да аб'яўленага дня і часу "прамога эфіру" ў рэдакцыю пачалі паступаць тэлефонныя званкі, у якіх людзі спяшаліся выказаць свае наболелыя просьбы. Яны былі перададзены А.І.ЦІШКЕВІЧУ. Па яго даручэнню тлумачэнні па пастаўленых пытаннях далі адказныя работнікі аблвыканкома.**

А пытанні так ці інакш былі "завязаны" пераважна на адной праблеме — выдзялення і выкарыстання зямлі. Жыхар г. Мінска Барыс Дзям'янавіч **ШЭЛЯНГОЎСКІ** чатыры гады стаіць у чарзе ў Першамайскім райвыканкоме на атрыманне дачнага ўчастка. Чарга льготная, але ён у ёй 400-ы. Прапаноўвалі ўчастак у Лагойскім раёне, але як туды дабрацца, калі вядома, як працуе цяпер аўтатранспарт. "Калі ж уздоўж чыгункі будуць пашыраць дачныя кааператывы?" — пытаецца ён.

Загадчык аддзела па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню аблвыканкома **М.Ц.ГАРБАЧЭЎСКІ** растлумачыў у гэтай сувязі, што цяпер Мінгарвыканкому для забеспячэння дачнымі ўчасткамі мінчан прапаноўваюцца землі ў Чэрвеньскім, Лагойскім, Смалявіцкім раёнах. Свабодных жа зямель уздоўж чыгункі або паблізу ад яе ўжо няма.

Блізкае да вышэйназванага і пытанне работніка Негарэльскага лясгаса Юрыя Вячаслававіча **ЧЭРНІКА,** які жыве ў Мінску: "Ці магу я, — цікавіцца ён, — узяць у вёсцы ўчастак для будаўніцтва дома і пераезду затым туды на пастаяннае жыхарства? І якая цана зямлі?"

Адказ М.Ц.Гарбачэўскага тут адназначны: такое права дадзена кожнаму грамадзяніну, з афармленнем участка на пажыццёвае спадчыннае валоданне або ў прыватную ўласнасць. Што датычыць цаны зямлі, то яна залежыць ад урадлівасці.

Праблема дачнага будаўніцтва хвалюе і пенсіянерку з Жодзіна Аляксандру Лук'янаўну **БЫЧКОЎСКУЮ**. У прыватнасці, чаму жыхарам горада вось ужо каторы год не выдзяляецца зямля пад дачы? Мясцовыя ўлады даюць у часовае карыстанне ўчасткі пад агароды, але гэта не вырашае праблемы. Людзі збіраюць каменне, угнойваюць палетак, з якім праз год-другі даводзіцца развітвацца.

— Выдзяленне зямель пад індывідуальнае будаўніцтва і дачнае — прэрагатыва гарвыканкома і райвыканкома, — паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва аблвыканкома **І.І.НЕКРАШЭВІЧ**. — Пад агароды з рэзерву горада выдзяляецца зямля, якая часова не забудоўваецца. Пры забудове ўчастка карыстальнікі агародаў папярэджваюцца аб гэтым не пазней чым за год да пачатку будаўніцтва.

Група пенсіянераў (**ВІШНЕЎСКІ, ПОЛУБАЎ, НЯГІРЫШ**) ад імя калектыву садовага таварыства "Асееўка" Мінскага раёна просіць аказаць садзейнічанне ў выдзяленні 2—3 сотак зямлі для вырошчвання бульбы. Райвыканкам разглядаў гэтае пытанне, аднак станоўчага рашэння не даў. "Ці можам мы спадзявацца, — пытаюцца яны, — на вырашэнне гэтага пытання ў 1995 годзе?"

Як паведаміў памочнік старшыні аблвыканкома **І.А.САЛАДУХА,** Мінскаму райвыканкому, у прыватнасці, яго старшыні Ф.С.Чарнушэвічу даручана вярнуцца да разгляду просьбы пенсіянераў.

Да кампетэнцыі раённых улад адносіцца і просьба жыхара г. Мінска Рыгора Васільевіча **МІХАЛЕНКІ,** які мае дом у вёсцы Вітараж Пухавіцкага раёна і скардзіцца на тое, што ў ёй, а таксама ў вёсках Седча, Загібелька абрэзана радыёлінія, не працуюць водаразборныя калонкі, і таму летам не было чым паіць жывёлу.

Гэтыя пытанні, вядома, даручана разгледзець Пухавіцкаму райвыканкому.

А Юрый Вячаслававіч **ЧЭРНІК** з Негарэльскага лясгаса разам з зямельным пытаннем, пра якое гаворка ішла вышэй, прасіў растлумачыць наступнае: "Дзе я магу атрымаць хоць якую-небудзь дапамогу, бо за кастрычнік зарплата склала 64 тысячы рублёў — толькі на праезд на працу. А чым плаціць за камунальныя паслугі, кватэру, за што харчавацца?.."

Паводле паведамлення намесніка загадчыка аддзела сацыяльнага забеспячэння аблвыканкома **А.А.РЖЭУСКАГА,** такую дапамогу можа аказаць Цэнтр па налічэнню і выплаце пенсій і дапамог па хадайніцтву райвыканкомаў. Мясцовыя органы ўлады таксама могуць аказаць грашовую падтрымку малазабяспечаным, у залежнасці ад матэрыяльнага становішча заяўніка і наяўнасці крыніц фінансавання.

Такі агляд вусных заяў, якія паступілі ў рэдакцыю напярэдадні "прамой лініі" з А.І.Цішкевічам. А "жывая" размова чытачоў "Мінскай праўды" з Альфонсам Ільічом адбылася падчас яго непасрэднага знаходжання "на тэлефонах" рэдакцыі. Вось запіс з магнітафоннай стужкі.

**— Алё, Альфонс Ільіч, вас турбуе ўласны карэспандэнт "Мінскай праўды" КАНСТАНЦІН ПРЫЁМКА. Чытачы газеты звярнуліся да мяне з некалькімі запытаннямі на ваша імя. Напрыклад, рабочага Клецкай ПМПК-191 І.І.Рокаця цікавіць, ці будуць выдзяляцца льготныя крэдыты для індывідуальнага будаўніцтва.**

**А.І.ЦІШКЕВІЧ:** Сітуацыя з крэдытамі на індывідуальнае будаўніцтва на сённяшні дзень такая: згодна з існуючым заканадаўствам, мы можам узяць з Ашчаднага банка толькі 40% ад паступіўшых туды ўкладанняў. Сума, як вы разумееце, недастатковая, каб задаволіць патрэбу ў льготных крэдытах тых, хто распачаў індывідуальнае будаўніцтва. Таму адназначна падтрымаць усіх забудоўшчыкаў у нас няма магчымасці.

**К.ПРЫЁМКА: Наступнае пытанне задаюць настаўніца пачатковых класаў Нясвіжскай гімназіі І.Яшчанка і выкладчык педвучылішча В.Варанко. Яны хочуць даведацца аб тым, ці прымаюцца абласным кіраўніцтвам якія-небудзь меры, каб у гандлі, нарэшце, дзіцячыя адзенне і абутак з'явіліся ў дастатковай колькасці.**

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

■ В исполкоме областного Совета

## ЗИМА ВЕСНУ ТОРОПИТ

**На очередном заседании исполнительный комитет областного Совета депутатов рассмотрел вопрос о ходе подготовки колхозов и совхозов Борисовского района к весеннему севу 1995 года.**

Картина с подготовкой к весенне-полевым работам в районе, можно сказать, типичная: все пока держится на ранее созданном потенциале. Практически не обновляется машинно-тракторный парк, многие агрегаты давно подлежат списанию. Скажем, за пределом амортизационных отчислений работают свыше 30% тракторов. Как и всюду, остро не хватает топлива, запчастей.

Не потому ли зябь поднята только на 70% площадей от плана. В колхозах "Коминтерн", им.Чкалова, "Красная зорька", "Лошница", "Замошье", "Краснопартизанский", совхозах "Трояновка", "Радуга" вспахано менее половины площадей.

БелНИИЗ достоверно установил, что урожайность зерновых на не обработанных в оптимальные сроки на зябь площадях и замена ее весновспашкой снижают урожайность на 5—6 центнеров кормовых единиц с гектара.

Анализ положения дел с осенней обработкой почв показывает, что основной причиной срыва оптимальных сроков является неудовлетворительное финансовое состояние абсолютного большинства хозяйств, вызванное несвоевременностью расчетов заготовительных и перерабатывающих предприятий за сданную продукцию и отсутствием по этой причине средств на покупку топлива, семян сельскохозяйственных культур для проведения сортосмены и сортообновления, средств защиты растений.

Так, по состоянию на 22 ноября задолженность колхозов и совхозов банку по ссудам составляет 8.073,9 млн.рублей, что в 12 раз выше соответствующего периода прошлого года. Только за октябрь задолженность банку возросла на 916 млн.рублей. Закредитованы колхозы "Путь Ленина", "Красная Белоруссия", им.Кутузова, "Бродовка", "Мстиж", "Коминтерн".

Остатки средств на расчетных счетах составляют 125,7 млн.рублей. В 19 хозяйствах района вообще нет никаких денежных средств на расчетных счетах и только в 3 колхозах — "Маяк", имени Чкалова, "Новая жизнь" — на расчетных счетах от 20 до 41 млн.рублей.

Задолженность же хозяйствам района мясокомбината и гормолзавода составляет соответственно 575 и 212 млн.рублей. Это почти в 2 раза меньше, чем должны колхозы и совхозы обслуживающим предприятиям и организациям.

Несвоевременность расчетов заготовителей и перерабатывающих предприятий в сегодняшней экономической ситуации приводит к катастрофическому обесцениванию финансовых средств, усугубляет неплатежеспособность хозяйств на фоне опережающего многократного увеличения цен на материально-технические ресурсы, и в первую очередь на топливо, минеральные удобрения.

Большинство хозяйств обеспечивается топливом практически с колес, не удовлетворяется даже дневная потребность в нем. В результате техника в ряде колхозов и совхозов направляется на выполнение только первоочередных работ. Упрощена технология сельскохозяйственных работ, сокращены объемы осеннего внесения под зябь органики и минеральных удобрений, почвенных гербицидов.

Вывезено под яровой сев 42,5 тыс.тонн органики, а колхозы "Коминтерн", им.Кутузова, им.Чкалова, "Краснопартизанский" еще и не приступали к этой работе. Под урожай 1995 года почвенные гербициды внесены на 1,7 тыс.га, что составляет 40% к 1993 году. Семян зернобобовых недостает в 6 хозяйствах, гречихи — 9, кукурузы — 6, клеверов — в 4 хозяйствах района. В ряде хозяйств не отработана сортовая структура посевов зерновых культур, картофеля. Так, в колхозе им.Чапаева посевы ячменя представлены одним позднеспелым сортом "прима Белоруссии", картофеля — только сортом "темп" неизвестных репродукций.

В районе возросли посевы зерновых культур IY—Y и последующих репродукций. Так, в посевах озимых зерновых под урожай 1995 года семена IY—Y репродукций составили 11,9 и 2,8% (по области соответственно 9 и 0,3%).

В отдельных хозяйствах в посевах зерновых культур преобладают массовые репродукции. В колхозе им.Чапаева под урожай будущего года посеяны все 450 гектаров озимой ржи сорта "верасень" семенами YII репродукции, в колхозе "1 Мая" из 604 ц высеянных семян озимой ржи семена Y репродукции составили 579 ц.

В ряде хозяйств с опозданием приступили к очистке семян яровых зерновых. Из проверенных только 77,4% отвечают посевным кондициям.

Для хранения минеральных удобрений и средств защиты растений специализированные складские помещения имеются только в 18 хозяйствах, а в 11 — минеральные удобрения находятся на открытых площадках и в приспособленных помещениях, которые не соответствуют элементарным условиям. В связи с резким подорожанием минеральных удобрений и средств защиты растений, не имея складов для их хранения, хозяйства несут огромные материальные и финансовые потери.

В колхозе "Трояновка" 5 тонн калийных удобрений хранится на улице под пленкой, 29 тонн мочевины превратились в монолит, а 15 т аммофоса пришли в кашицеобразное состояние. Склад ядохимикатов разломан, а ведь в нем находятся пестициды.

Аналогичное положение с хранением минеральных удобрений и средств защиты растений в совхозах "Радуга", "Максимовка".

Много проблем с ремонтом сельскохозяйственной техники. Намечается необоснованное сокращение посевов льна, картофеля, только 140 гектаров планируется занять рапсом.

Отчет по этим вопросам держали на заседании облисполкома председатель Борисовского райисполкома Г.В.Киберман и начальник управления сельского хозяйства и продовольствия Р.Ф.Шемет.

В решении облисполкома отмечена недостаточная работа райисполкома и областных служб по подготовке к весеннему севу. О том, как устраняются выявленные недостатки, они обязаны доложить через месяц. Райисполкомам области рекомендовано рассмотреть вопросы готовности к весенне-полевым работам.

## ПАЧАТАК ПРЭЗІДЭНЦКАЙ ВЕРТЫКАЛІ ПАКЛАДЗЕНЫ

З Віцебскай, самай усходняй, вобласці пачата фарміраванне прэзідэнцкай вертыкалі ўлады, прадугледжанай унесенымі зменаннямі ў заканадаўства аб мясцовым самакіраванні. Заканадаўства не дапускае сумяшчэння пасады старшыні выканкома з любымі іншымі пасадамі і прадугледжвае, што кандыдатуру прэтэндэнта на пасаду старшыні выканкома ўносіць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

На праведзенай 29 лістапада нечарговай сесіі Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка прапанаваў выбраць старшынёй Віцебскага аблвыканкома Уладзіміра Паўлавіча Андрэйчанку — намесніка старшыні аблвыканкома, старшыню камітэта па сельскай гаспадарцы і забеспячэнню насельніцтва харчаваннем. Дэпутаты пагадзіліся з прапановай і зацвердзілі яго на новай пасадзе.

Уладзімір Кулакоў, які сумяшчаў пасаду старшыні аблсавета і кіраўніка выканкома, застаўся на пасадзе кіраўніка абласнога дэпутацкага корпуса. Яму цёпла падзякавалі за шматгадовую работу.

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка выступіў перад дэпутатамі з прамовай.

■ Парламенцкі дзённік

## СУСТРЭЧА ПРАЗ ДВА ТЫДНІ

Сустрэўшыся зноў пасля двухтыднёвага перапынку 29 лістапада, члены Вярхоўнага Савета не абмежаваліся традыцыйнымі дэбатамі ў раздзеле "Рознае".

Чарговы раз паступілі прапановы расшырыць парадак дня сесіі. У прыватнасці, Алег Трусаў палічыў неабходным заслухаць работу сваіх калег з парламенцкіх камісій па заканадаўству і дзяржаўнаму будаўніцтву. Віктар Піскароў прапанаваў уключыць у парадак дня пытанне аб амністыі. Дарэчы, праект гэтага дакумента быў падрыхтаваны яшчэ да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, цяпер ёсць думка "прывязаць" яго да другой даты — 50-годдзя Вялікай Перамогі. Мікалай Крыжаноўскі прапанаваў прыняць пастанову Вярхоўнага Савета "Аб індэксацыі крэдытаў, атрыманых грамадзянамі з парушэннем законаў і норм маралі". Каменціруючы сваю ініцыятыву, дэпутат сказаў, што некаторыя людзі, якія змаглі несумленнымі шляхамі атрымаць крэдыты пад нізкія працэнты, робяць на гэтым вялікія грошы. Паабяцаўшы здаць кватэры пасля ўзвядзення катэджаў, яны затым прыватызавалі жыллё і дзяржаве нічога не вярнулі.

Кіраўнік Вярхоўнага Савета, уважліва выслухаўшы выступаўшых, параіў выкласці ўсе прапановы ў пісьмовай форме, каб парламентарыі мелі магчымасць і час абдумаць "заяўкі" сваіх калег, а ўжо затым пагаджацца з імі ці не.

Пасля гэтага Вярхоўны Савет ужо каторы раз вярнуўся да абмеркавання законапраекта аб выбарах. А калі адбудуцца новыя выбары — нікому не вядома. Фармальная падстава для іх адтэрміноўкі ёсць — усе згодны, што стары Закон аб выбарах далёка не дасканалы, а новы да гэтага часу не прыняты.

Чарговы раз паступілі просьбы ад арганізацый ветэранаў і інвалідаў аб прадастаўленні ім у новым парламенце сумарна 15 месц. І чарговы раз хадайніцтва было адхілена — "за" прагаласавалі толькі 109 дэпутатаў.

Дэпутаты абмеркавалі новую рэдакцыю артыкула 43, які вызначае парадак вылучэння кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета на выбарчых участках. У прыватнасці, прынята папраўка дэпутата Алега Трусава аб тым, што пры вылучэнні кандыдата шляхам збору подпісаў яго павінны падтрымаць не менш чым 500 выбаршчыкаў. Артыкул канстатуе, што асабісты подпіс члена ініцыятыўнай групы на падпісным лісце павінен быць засведчаны старшынёй або намеснікам старшыні выканаўчага камітэта, на тэрыторыі якога праходзіць збор подпісаў. Па прапанове Генадзя Карпенкі прынята рашэнне, што выбаршчык не мае права знімаць свой подпіс да заканчэння тэрміну падачы спіса на рэгістрацыю. І яшчэ адна дэталь. Згодна з гэтым артыкулам, выбаршчык мае права ставіць свой подпіс у падтрымку аднаго або некалькіх кандыдатаў. Калі ж ён двойчы падпісаўся на карысць аднаго прэтэндэнта, то гэты падпісны ліст будзе прызнаны несапраўдным.

Дэпутаты не дасягнулі згоды па дзвюх частках 34-га артыкула, якія былі адпраўлены на дапрацоўку.

Затым слова атрымаў міністр унутраных спраў Юрый Захаранка, які пазнаёміў са зменаннямі, прапануемымі ў Крымінальны і Папраўча-працоўны кодэксы. Паводле слоў міністра, іх мэта — даць надзею чалавеку, які знаходзіцца ў папраўча-працоўнай установе, на ўмоўна-датэрміновае вызваленне. Юрый Захаранка прывёў шэраг фактаў, якія сведчаць аб неабходнасці змянення існуючага заканадаўства. Цяпер у Беларусі знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі больш як 60 тысяч чалавек. Турмы, калоніі, следчыя ізалятары перапоўнены. Сёння дзяржава можа забяспечыць работай толькі кожнага другога асуджанага. На ўтрыманне зняволеных з бюджэту штомесяц выдзяляецца 1,5 мільярда рублёў. Але і гэтай сумы яўна недастаткова. Прынятыя папраўкі да закона, на думку міністра, дадуць магчымасць вызваліць датэрмінова тых людзей, якія спатыкнуліся і праяўляюць станоўчыя якасці ў сацыяльна-прававаой арыентацыі. Размова ідзе прыкладна аб 20—30 працэнтах асуджаных. Пад дзеянне новага закона, зразумела, не трапляюць асобы, якія ўчынілі цяжкія злачынствы.

У ходзе дыскусіі дэпутаты падтрымалі прапановы Міністэрства ўнутраных спраў і прынялі закон з папраўкамі.

Старшыня парламенцкай камісіі Анатоль Новікаў азнаёміў з напрацоўкамі камісіі, якія датычаць не прынятых раней артыкулаў законапраекта аб дзяржаўных сакрэтах. Пасля непрацяглай дыскусіі закон быў прыняты ў цэлым.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ЧАМУ "МАЛАДЗЕЕ" ЗЛАЧЫННАСЦЬ?

*Адказ на гэтае пытанне шукалі ўдзельнікі сумеснай калегіі ўпраўлення адукацыі і ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкома*

На гэтым пасяджэнні абмеркавана пытанне "Аб рабоце аддзелаў адукацыі і інспекцый па справах непаўналетніх Барысаўскага, Смалявіцкага, Чэрвеньскага райвыканкомаў, Барысаўскага, Жодзінскага і Маладзечанскага гарвыканкомаў па прадухіленню злачыннасці сярод навучэнцаў". З інфармацыяй выступіў вядучы арганізатар упраўлення адукацыі аблвыканкома У.М.Фамін. Ён, у прыватнасці, адзначыў, што на працягу апошніх трох гадоў у вобласці расце злачыннасць сярод навучэнцаў. Прыкметна павялічылася п"янства сярод школьнікаў з Бярэзінскага, Любанскага, Мядзельскага, Нясвіжскага, Пухавіцкага раёнаў. У многіх навучальных установах аслаблена сувязь з інспекцыямі па справах непаўналетніх, з прадстаўнікамі суда і пракуратуры. Яны рэдка запрашаюцца ў школы. Гэта прыкметна зніжае ўзровень прававой прапаганды, не спрыяе выхаванню падрастаючага пакалення. Большасць правапарушэнняў і злачынных учынкаў дапускаецца вучнямі ў вячэрні час і ноччу, што сведчыць аб адсутнасці належнага кантролю бацькоў за паводзінамі сваіх дзяцей. Значная частка непаўналетніх, якія праяўляюць схільнасць да правапарушэнняў, жывуць у няпоўных сем"ях. Аднак аддзелы адукацыі, педагагічныя калектывы не вядуць з такімі сем"ямі мэтанакіраваную работу. Не можа не хваляваць нізкі ўзровень педагагічнай прапаганды сярод насельніцтва. Марудна аднаўляецца работа універсітэтаў педагагічных ведаў для бацькоў. А ці заўсёды цікава арганізаваны вольны час падлеткаў? Мала ахоплена гуртковай работай "цяжкіх" вучняў у школах г.Жодзіна, Смалявіцкага раёна.

Сёлета ў школах Міншчыны працуе 131 псіхолаг і 38 сацыяльных педагогаў. У сённяшніх складаных умовах іх яўна недастаткова. Аднак вельмі марудна ў навучальных установах запаўняюцца такія стаўкі. Кожную крупінку станоўчага вопыту ў гэтым кірунку трэба абагульніць, данесці да ўсіх педагагічных калектываў.

На пасяджэнні калегіі выступілі начальнік аддзялення па прафілактыцы правапарушэнняў сярод непаўналетніх і моладзі ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкома А.М.Сушчэня, загадчык аддзела адукацыі Жодзінскага гарвыканкома Я.Т.Горыд, начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх аддзела ўнутраных спраў Барысаўскага гарвыканкома Ю.А.Лукашоў і інш. Яны ўнеслі канкрэтныя прапановы па прадухіленню правапарушэнняў і злачыннасці сярод навучэнцаў, па павышэнню адказнасці кіраўнікоў устаноў за арганізацыю змястоўнага адпачынку падлеткаў, па ўкараненню новых форм і метадаў індывідуальнай выхаваўчай работы з імі. Засяроджвалася ўвага на ўзмацненні сувязей з праваахоўнымі органамі, камісіямі і інспекцыямі па справах непаўналетніх, на правядзенні рэгулярных сумесных пасяджэнняў саветаў аддзелаў адукацыі з гэтымі службамі, на ўмацаванні матэрыяльнай базы існуючых навучальных і пазашкольных устаноў, падлеткавых клубаў і летнікаў. Недаравальна і тое, што дапускаюцца выпадкі выключэння "цяжкіх" падлеткаў з навучальных устаноў без згоды камісій па справах непаўналетніх і абавязковага іх працаўладкавання. Прынята рашэнне аб фарміраванні банка даных аб падлетках, якія не дасягнулі 16-гадовага ўзросту і не заняты працай або вучобай, па накіраванню іх на вучобу ў вячэрнія (зменныя) школы. Рэкамендавана аднавіць сувязі з грамадскімі арганізацыямі прадпрыемстваў, гаспадарак, актывізаваць дзейнасць бацькоўскіх камітэтаў, патрулёў і саветаў па прафілактыцы, правесці канкрэтную работу па паляпшэнню падбору і псіхолага-педагагічнай падрыхтоўкі класных кіраўнікоў, настаўнікаў-прадметнікаў для работы з "цяжкімі" падлеткамі.

Вынікі размовы на сумеснай калегіі падвёў начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкома А.С.Новік.

**Крымінал-тэлетайп з Нясвіжа**

### ЦЯПЕР НЕ ПАХМЕЛІШСЯ

Рашэннем раённага суда калгаснік вёскі Лявонавічы (калгас "1 Мая") У.Саўчанка аштрафаваны на 200.000 рублёў, а яго сябрук слесар Ю.Макаўчук асуджаны на год умоўна па месцы работы з утрыманнем 20 працэнтаў заробку штомесячна.

Такі фінал заканамерны для зладзеяў: у час жніва яны сцягнулі чатыры мяхі пшаніцы і "загналі" яе за гарэлку пенсіянерцы Г. з вёскі Смалічы. Застаецца дадаць, што "аперацыя" па вывазу збожжа з зернятока была праведзена сярод белага дня. Няўжо спалі вартаўнікі?

### ЕХАЛІ МЫ, ЕХАЛІ

У.Макаш у свой час працаваў трактарыстам у Асмолаўскім доме-інтэрнаце для састарэлых. Выгналі за п"янку. Уладкаваўся палyводам у калгасе імя Леніна. Але разлучацца з тэхнікай, відаць, не хацелася. Аднойчы ноччу ён самавольна ўзяў свой былы трактар і паехаў у госці да маці ў вёску Круты Бераг. Па дарозе назад яго, п'янага за рулём, затрымала міліцыя.

Цяпер Макашу прыгадалі і яго ранейшыя дзве судзімасці за крадзеж. Прыйдзецца паўтара года адбываць нашаму "герою" ў калоніі строгага рэжыму.

### НЕ ВІШЧЫ, ПАРАСЯТКА...

У тую ноч на свінаферме калгаса імя Дзяржынскага прапалі двое парасят. Участковаму інспектару людзі падказалі, што "нешта вельмі вішчала" ў хляве В.Кадэбскага. І праўда, гаспадар не паспеў нават схаваць мех, у якім прынёс "жывы тавар". Прызнаўся следчаму, што "хацеў пажартаваць".

Народны суд, вядома, не любіць "жартачак", і цяпер Кадэбскаму будзе час абдумаць свой учынак у месцы не зусім аддаленым. Бо ён папаўся на крымінале ўжо другі раз.

### АЛХІМІКІ Ў РАЗГОНЕ

На 33 мільёны рублёў украдзены ядахімікаты ў калгасе "Слава". Злачынцы былі затрыманы. Вядзецца следства. Першыя тлумачэнні "начных візіцёраў": "Мы набылі ядахімікаты ў незнаёмых людзей у горадзе Бабруйску". Але ж у хлусні, як вядома, кароткія ногі.

Зладзеі дзейнічаюць усё больш нахабна. У свой час шмат ядахімікатаў "знікла ў невядомым кірунку" з калгаса імя Леніна. Відаць, трэба не толькі вешаць на складах пудовыя замкі, але і ставіць дзядзьку з дубальтоўкай.

### І ТУТ ПРЫХАПЛЮ, І ТАМ АДРЭЖУ

Гандлёвая крама на даму ў вёсцы Янчыцы з некатарага часу пачала нагадваць фірму свабоднага прадпрымальніцтва. А.Машэль, якая тут працавала, пачала рабіць такія выкрутасы з дзяржаўнымі цэнамі на тавары і прадукты, што рэвізоры райспажыўсаюза не адразу і "ўсеклі" гэтыя хітрыкі. Скажам, пачак цыгарэт "Астра" з лёгкай рукі Машэль падскочыў у цане на 590 рублёў, кіло солі — на 40 рублёў. А мех цукру наогул быў адкладзены для сваіх патрэб. Цяпер былой "знаходлівай" прадаўшчыцы давядзецца расплачвацца даволі важкім штрафам, да таго ж два гады яна не мае права займаць пасаду ў гандлі.




## Медыка-сацыяльны цэнтр

Першамайскі райвыканком падтрымаў ініцыятыву раённага камітэта Чырвонага Крыжа аб арганізацыі Цэнтра медыка-сацыяльнай дапамогі інвалідам, адзінокім і малазабяспечаным жыхарам. У адным з дамоў па вуліцы Чарнышэўскага для Цэнтра выдзелена трохпакаёвая кватэра, дзе з дапамогай спонсараў праведзены рамонт, набыта мэбля і медабсталяванне. Працуе кабінет лячэбнага масажу, плануецца адкрыць кабінеты мануальнай тэрапіі, гамеапатычны, урачэбна-кансультацыйны.

## Помнік Францыску Скарыне

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб узвядзенні ў Мінску помніка першадрукару, вучонаму-гуманісту эпохі Адраджэння Францыску Скарыне. Функцыі заказчыка ўскладзены на гарвыканком. Прадугледжана адкрыць помнік у 1996 годзе.

## Новыя назвы вуліц

Мінскі трактарны завод вядзе масавае будаўніцтва катэджаў у раёне Калодзішчаў. З"явіліся новыя вуліцы, якім рашэннем Мінгарвыканкома прысвоены назвы. Гэта "Валмянскі шлях", "Узлесная", "Ліпавая калода", "Міхайлаўскі кут", "Глебкаўка" і іншыя.

## "Дражня" у новых бутэльках

Арэнднае прадпрыемства "Крыніца" пачало разліў піва маркі "Дражня" ў новыя арыгінальныя бутэлькі ёмістасцю 0,35 літра. Першая партыя "навінкі" з"явілася ў шэрагу буйных універсамаў сталіцы.

## На варце экалогіі

У Мінску ў бліжэйшы час будзе створана "санітарна-экалагічная міліцыя". Яна будзе весці кантроль за санітарна-экалагічным рэжымам вуліц, тэрыторый прадпрыемстваў, праводзіць прафілактычную работу па папярэджанню парушэнняў экалагічнага заканадаўства.

## Таксісты павышаюць стаўкі

З 1 снежня паездка на таксі для мінчан стане яшчэ больш дарагім задавальненнем. Адзін кіламетр прабегу машыны будзе каштаваць ужо 800 рублёў, столькі ж — пасадка, а адна гадзіна прастою — восем тысяч рублёў. Як паведаміў Беліпфарм, транспартнікі тлумачаць сваё новае рашэнне тым, што нядаўна быў чарговы скачок цэн на гаручае, газ і вельмі дорага прыходзіцца плаціць за ацяпленне вытворчых памяшканняў.

## На гастролі ў Іспанію

Другі раз у гэтым годзе на гастролі ў Іспанію выязджае балетная трупа акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. У рэпертуары класічныя творы П.І.Чайкоўскага "Шчаўкунчык" і "Спячая прыгажуня".

## Свята ўсмешкі

У Цэнтры культуры і спорту чыгуначнікаў па ініцыятыве таварыства "Дзеці ў бядзе" прайшло "Свята ўсмешкі". У фае і зале было па-хатняму цёпла і ўтульна, усюды музыка, добры настрой. Завяршылася свята "салодкім сталом", падарункамі, аб чым паклапаціліся спонсары.

## Падраблялі талоны

На прахадной паліграфкамбіната супрацоўнікамі міліцыі затрымана работніца гэтага прадпрыемства, якая імкнулася вынесці форму для вырабу праязных талонаў на мінскі гарадскі транспарт і 1.745 саміх талонаў. Вядзецца следства.

## Асартымент — самы шырокі

У выставачным комплексе "Мінскэкспа", што на праспекце Машэрава, у гэтыя дні праходзіць міжнародная універсальная выстаўка "Кансумэкспа-Мінск-94". У ёй прымаюць удзел каля пяцідзесяці прадпрыемстваў і фірм Беларусі, краін блізкага і далёкага замежжа. Асартымент — самы шырокі. Гэта бытавая тэхніка, адзенне, посуд, кераміка, гадзіннікі, упрыгажэнні, касметыка, цацкі. Тут жа можна купіць калядныя сувеніры.

*Падрыхтаваў Павел ЖУРБА.*

■ Официально

# ОТ ДОТАЦИЙ К СУБСИДИЯМ

**В НАСТОЯЩЕЕ ВРЕМЯ** за счет населения возмещается только 7—9 процентов фактических затрат на содержание жилого фонда и коммунальные услуги. Дотации из государственного бюджета на эти цели в 1994 году составят по области около 33 млрд. рублей. В ведомственном жилом фонде (а это почти столько же, сколько имеют местные Советы) проблема еще более остра. Здесь все расходы должны покрываться за счет доходов самих предприятий. Резкое повышение цен на топливно-энергетические и другие ресурсы делает для них эту ношу неподъемной.

Кроме того, в условиях экономического кризиса безадресные дотации на содержание жилья и оказание коммунальных услуг попросту аморальны. Ведь ими в равной степени пользуются как малоимущие слои населения, так и с высоким уровнем доходов. Вот почему программой неотложных мер по выходу экономики из кризиса предусмотрено, в частности, сокращение расходов государства на возмещение затрат по жилищно-коммунальным услугам. В новом году устанавливается новый порядок их оплаты согласно постановлению Кабинета Министров от 31 октября 1994 года.

Суть его в том, что все расходы должны оплачиваться самими гражданами при одновременном введении безналичных жилищных субсидий. Вводится адресная финансовая поддержка тех категорий граждан, которые в ней действительно нуждаются. **Ее получают те, для кого сумма затрат на содержание жилья** (кроме жилых помещений индивидуального жилого фонда) **и коммунальные услуги** (отопление, холодное и горячее водоснабжение, канализация, газо- и электроснабжение) **с учетом действующих льгот превышает 15 процентов совокупного дохода семьи.** Размер безналичной жилищной субсидии определяется как разность между стоимостью содержания жилых помещений в пределах нормы пользования ими, коммунальных услуг по нормативам потребления и суммой, составляющей 15 процентов совокупного дохода семьи. **Эти субсидии будут начисляться персонально по заявлениям граждан на основе деклараций о совокупном доходе семьи.** Порядок и условия предоставления субсидий будут изложены в разрабатываемом Минжилкомхозом специальном положении.

Вот что показывают предварительные расчеты. Возьмем семью из трех человек, проживающую в трехкомнатной квартире жилой площадью 32 кв. метра. У нее совокупный доход 300 тыс. рублей в месяц. 15 процентов от этой суммы составляет 45 тысяч рублей. Стоимость содержания такой квартиры и коммунальных услуг равняется 218 тыс. рублей (в ценах октября т.г.). Следовательно, семья получит 173 тысячи безналичной жилищной субсидии (218—45), остальное доплачивает из своего кармана (в отопительный сезон).

**Граждане, которым будут начисляться субсидии, должны извещать жилищно-эксплуатационную службу об изменениях совокупного дохода семьи и ее состава.** В случае представления недостоверной информации о доходах они лишаются права на получение жилищной субсидии и с них взыскиваются суммы причиненных государству убытков.

Те, кто имеет свой дом или жилое помещение на праве собственности в многоквартирном жилом доме и сдает по договору найма, а также имеющие два или более жилых помещения, никаких субсидий не получают.

Государственная финансовая поддержка для оплаты жилья и коммунальных услуг будет оказываться только в пределах установленных нормативов. **За излишки жилой площади и сверхнормативное потребление коммунальных услуг граждане должны платить полностью за счет собственных средств.** При желании они могут реализовать свое право на обмен или продажу жилых помещений исполкомам местных Советов депутатов с предоставлением им меньшего по площади жилого помещения. По истечении двух месяцев после подачи соответствующего заявления в случае непредоставления исполкомом меньшего по размеру жилого помещения гражданин освобождается от платы за пользование излишней жилой площадью и за связанное с этим сверхнормативное потребление коммунальных услуг.

Переход на новую систему платы за пользование жильем и коммунальными услугами должен повысить заинтересованность населения в бережном отношении к жилищу, экономном расходовании тепловой и электрической энергии. Жилищно-эксплуатационные службы, в свою очередь, должны повысить качество обслуживания населения и содержания жилых домов, не допускать перебоев в тепло- и водоснабжении, оперативно устранять неполадки, установить приборы квартирного учета расхода газа, воды, тепловой энергии.

*Виктор САВИЦКИЙ, советник секретариата заместителя премьер–министра Республики Беларусь.*

■ Спажывецкая кааперацыя

# РЭНТАБЕЛЬНА, З ПРЫБЫТКАМ







У жніўні 1992 года адбылася рэарганізацыя Чэрвеньскага райспажыўсаюза, і на яго базе было створана раённае спажывецкае таварыства, у састаў якога сёння ўваходзяць аптова-рознічнае гандлёвае аб"яднанне, комплекс прадпрыемстваў грамадскага харчавання, райкаапнарыхтпром, камбінат кааператыўнай прамысловасці, будаўніча-тэхнічны ўчастак, аўтабаза, гаспадарка па вырошчванню і адкорму жывёлы.

Гандлёвую дзейнасць ажыццяўляюць 140 магазінаў, большасць з якіх размешчаны ў сельскай мясцовасці. У тыя населеныя пункты, дзе няма стацыянарных магазінаў, прадукты і тавары першай неабходнасці дастаўляюцца аўтамагазінамі. Як падкрэсліў старшыня райпо Віталь Мікула, з пачатку года ў сярэднім на кожнага жыхара раёна прададзена тавараў больш чым на 200 тысяч рублёў. Гэта трэці паказчык сярод раёнаў вобласці.

Шырокая сетка грамадскага харчавання. Гэта 55 сталовых і буфетаў, 4 кандытарскія цэхі, цэх паўфабрыкатаў. У Чэрвені і Смілавічах працуюць хлебазаводы, пры камбінаце кааператыўнай прамысловасці ёсць каўбасны і кандытарскі цэхі, квасільна-засолачны цэх, цяплічная гаспадарка. На сённяшні дзень кааператары адкормліваюць звыш 170 свіней і каля 200 галоў буйной рагатай жывёлы. Для продажу і ўласнай перапрацоўкі за дзесяць месяцаў гэтага года атрымана каля ста тон мяса.

Раённае спажывецкае таварыства забяспечвае рэнтабельную работу ўсіх галін сваёй дзейнасці, атрымала з пачатку года каля 600 мільёнаў рублёў прыбытку.

*НА ЗДЫМКАХ:* пераможца абласнога і рэспубліканскага конкурсаў кандытараў Валянціна **Пратасевіч;** лепшыя рабочыя дапаможнай гаспадаркі (злева направа): свінарка **М.С.Пятроўская,** трактарыст **А.В.Ялавой,** цялятніцы **Н.Д.Касцюкевіч** і **А.Д.Захарчанка;** загадчыца магазіна пасёлка Азёрны **Т.С.Дражына,** прадаўцы **Г.У.Крывіцкая** і **Т.У.Корзун** гатовы сустрэць пакупнікоў.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Бліцінтэрв"ю

# ХТО КЛЮЕ НА "ЛЕВЫЯ" ГРОШЫ

**Два гады назад пачала сваю работу інспекцыя Кантрольнай палаты РБ па Мінскай вобласці. Тэрмін, зразумела, не юбілейны. Тым не менш, пэўныя вынікі ўжо можна падвесці. З гэтага і пачалося наша інтэрв"ю з начальнікам інспекцыі А.Е.ЗАБАЛОТНЫМ.**

— Калі гаварыць мовай лічбаў, — заўважыў Аляксей Еўдакімавіч, — то за мінулы час нашымі работнікамі было зроблена звыш 450 розных праверак, рэвізій, абследаванняў. Выяўлена нямала фактаў атрымання неабгрунтаваных даходаў, незаконнага выкарыстання дзяржаўных сродкаў і іншых выпадкаў парушэння існуючага заканадаўства. У дзяржаўную казну спагнаны сотні мільёнаў рублёў. Некаторыя кіраўнікі развіталіся са сваімі пасадамі.

***— Хто часцей за ўсё ўступае ў канфлікт з законам?***

— Раней у большасці выпадкаў гэтым "грашылі" касіры, бухгалтары. Зараз нярэдка віноўнікамі аказваюцца кіраўнікі гаспадарак, арганізацый, прадпрыемстваў, якія далёкімі ад закона метадамі спрабуюць зарабіць "левыя" грошы. Напрыклад, Нясвіжскі дом-інтэрнат для састарэлых. Тут за бюджэтныя сродкі набываліся рэчы, у якіх гэтая ўстанова не мела асаблівай патрэбы. І, наадварот, рэчы, якія былі вельмі неабходны яго насельнікам — абутак, адзенне, — ішлі на продаж па заніжанай цане, у тым ліку камерцыйным структурам.

Ёсць нямала правапарушэнняў, звязаных са здачай у арэнду дзяржаўных памяшканняў. Плата за іх або да смешнага малая, або зусім не бярэцца. Часта гаспадаркі прадаюць сваю тэхніку па крайне заніжаных цэнах. У такіх здзелках "першую скрыпку", вядома, іграюць не касіры ці бухгалтары, а перш за ўсё кіраўнікі.

***— Гэта асобныя факты ці можна гаварыць ужо пра нейкую тэндэнцыю?***

— Хутчэй за ўсё — тэндэнцыя.

***— Што ў першую чаргу спрыяе ёй: аморфнае заканадаўства, неразбярыха пераходнага перыяду? Ці жаданне ўварваць тлусцейшы кавалак: раптам праняce?***

— Пытанне такое, што на яго пад сілу адказаць, напэўна, якому-небудзь аналітычнаму цэнтру. З вялікім штатам эканамістаў, сацыёлагаў, аналітыкаў. Мы ж служба іншага кірунку. Але ў цэлым, прааналізаваўшы выяўленыя факты, сітуацыі, можна адназначна канстатаваць: і недасканаласць нашага заканадаўства, і несфарміраванасць рыначных узаемаадносін, і жаданне таго-сяго як мага хутчэй абагаціцца. Прычым да гэтых трох фактараў, я лічу, трэба абавязкова дадаць яшчэ адзін — нашу некампетэнтнасць у заключэнні здзелак, дагавораў, кантрактаў. Асабліва з замежнымі партнёрамі.

У нас чамусьці ўсталяваўся бездакорны імідж замежнага бізнесмена. Ён ні ў чым нас не падвядзе, не падмане, яму можна поўнасцю давяраць. Практыка ж часам паказвае зусім іншае. Быў такі выпадак. Абласное ўпраўленне хлебапрадуктаў заключыла дагавор на пастаўку зерня з адной фінскай фірмай. На гэта выдзелілі звыш 2 мільёнаў долараў. Але адказнага і адказнасць за затрымку пастаўкі ў дагаворы не абумовілі. У выніку зерне было атрымана толькі праз год, і то праз Казахстан.

Бывае, што нечаканыя "сюрпрызы" прыносіць і блізкае замежжа. Як здарылася з адным прадпрыемствам. Яно заключыла па факсу дагавор на пастаўку буйной партыі прадукцыі. Прадукцыю адправілі па ўказанаму адрасу. Пазней высветлілася, што фірмы, з якой заключаўся дагавор, не існуе. Значыць, і грошай за выробленую прадукцыю завод не атрымае.

Такія аферы, на жаль, здараюцца ў апошні час нярэдка. Таму нашым гаспадарнікам трэба быць пільнымі, каб потым не аказацца ў даволі непрыемным становішчы.

***— Інспекцыя Кантрольнай палаты трымае ў полі зроку і выкананне "чарнобыльскай праграмы". У прыватнасці, яе жыллёвы аспект...***

— Так, мы кантралюем выкарыстанне дзяржаўных сродкаў. Парушэнні, вядома, ёсць. Сярод іх — засяленне дамоў для чарнобыльцаў мясцовымі жыхарамі. Такія выпадкі здараліся ў Барысаўскім, Пухавіцкім, Смалявіцкім раёнах.

***— Вы часта працуеце па заявах грамадзян. Што канкрэтна было зроблена ў гэтым кірунку?***

— Сапраўды, людзі нярэдка дасылаюць нам пісьмы з просьбай праверыць дзейнасць таго ці іншага кіраўніка. Мы рэагуем на іх. У многіх выпадках факты пацвярджаюцца. Напрыклад, на Красненскім ільнозаводзе Маладзечанскага раёна дапускаліся парушэнні фінансава-гаспадарчай дысцыпліны.

У заключэнне хацелася б сказаць, што мы пастаянна ўдасканальваем сваю работу, камплектуем кадры вопытнымі спецыялістамі.

*Гутарыў Мікалай ЖУЧКО.*

■ Народныя таленты

# РОССЫП МЕЛОДЫЙ ЧАРОЎНЫХ

**З кожным годам на Міншчыне расце колькасць самадзейных мастацкіх калектываў, павышаецца іх выканаўчае майстэрства. Гэта пацвердзіла і нядаўняе пасяджэнне атэстацыйнай камісіі абласнога цэнтра народнай творчасці, на якім лепшым калектывам вобласці прысвоена званне "народны". Пра адзін з іх і пойдзе гаворка.**

У вёсцы Дворышча Дзяржынскага раёна заўсёды любілі песню. Спявалі ў полі за работай, на прызбах хат у вольныя хвіліны, за бясёдным сталом. А вось каб выйсці на сцэну і падарыць хараство сваіх галасоў людзям, не асмельваліся спевакі, бо не артысты ж яны, а людзі самых розных прафесій. Ды знайшоўся чалавек, які згуртаваў аматараў песні. Гэта — Валянціна Андрэеўна Даўгалёва. У вёсцы яе паважаюць, з 1989 года тут у мясцовай дзіцячай музычнай школе. Менавіта з таго часу і пачынаецца біяграфія ансамбля народнай песні, у якім цяпер 17 чалавек. Не перастануць пульсаваць народныя крыніцы талентаў, калі сярод нас жывуць такія аматары песні, як дырэктар сельскага Дома культуры Лідзія Драчынская і санітарка Ганна Краўчанка, настаўніца Тамара Дароцкая і прадавец Ірына Гаўрыловіч, ветэрынарны ўрач Тамара Гардзіеўская і швачка Таццяна Карнеева, акампаніятар Мікалай Даўгалёў і бібліятэкар Наталля Жук, медыцынская сястра Марына Ліпень і няня Таццяна Рэдзькіна... Словы ўдзячнасці хочацца выказаць і тым, каго тут не назваў. Рэпертуар калектыву складаюць беларускія народныя песні ў апрацоўках вядомых на Беларусі кампазітараў М.Сіраты, А.Рашчынскага, іншых. Многія нумары праграмы выконваюцца ў суправаджэнні дзіцячага ансамбля народных інструментаў.

— Мае самадзейныя артысты ведаюць больш за 120 песень. І кожную так хараша праспяваюць, што за сэрца бярэ, — зазначыла дырэктар Дварышчанскага Дома культуры Лідзія Іосіфаўна Драчынская.

Ансамбль народнай песні са сваімі канцэртамі аб"ездзіў амаль усе вёскі раёна. Дэманстраваў сваё майстэрства на народных святах г.п.Фаніпаль, "Дзяржынскія зарніцы", перад замежнымі турыстамі. Калектыў выступаў і ў суседніх раёнах — Стаўбцоўскім, Мінскім, Лагойскім. Але найбольш выступленняў ансамбль зрабіў у сваім мясцовым саўгасе імя Фрунзе. Ніводнае свята, ніводны сход не праходзяць без яго ўдзелу. За культурнае абслугоўванне працаўнікоў вёскі дырэкцыя гаспадаркі неаднаразова ўзнагароджвала самадзейных артыстаў паездкамі ў Мінск на канцэрты прафесійных калектываў.

— Я свой абавязак бачу ў тым, каб народныя песні яшчэ шырэй развіналі свае крылы, неслі людзям непаўторную прыгажосць, прыгожыя і светлыя пачуцці, — сказала кіраўнік ансамбля Валянціна Даўгалёва.

У гэтым пераконваешся, калі прысутнічаеш на канцэрце, дзе дварышчанскія жанчыны выконваюць беларускія народныя песні "Зелянее жыта", "Прывыкайце, чорны вочы", "Ой, конь вараны, залатая грыва", "Сеяў мужык грэчку" і інш.

*Уладзімір КОБРЫН.*

■ 1 декабря — Всемирный день профилактики СПИДа

# КАК ИЗБЕЖАТЬ ЭТОЙ «ЧУМЫ»?




**Принимая во внимание тот факт, что 1994 год объявлен Международным годом семьи, Всемирная организация здравоохранения выбрала в качестве лозунга следующий: "СПИД и семья". Чтобы обратить особое внимание на семьи, пораженные СПИДом. А также сделать акцент на мерах, принимаемых в семьях по профилактике ВИЧ-инфекции.**

По оценке экспертов ВОЗ, в 190 странах мира зарегистрировано 16 миллионов ВИЧ-инфицированных, среди которых один миллион детей. Наибольшее количество наблюдается в Африке — 10 млн., странах Америки — более одного миллиона, в Европе — 500 тыс. В странах Восточной Европы и Азии — 50 тыс. По данным экспертов ВОЗ, к 2000 году число ВИЧ-инфицированных и больных СПИДом в мире составит более 40 млн. человек. В Республике Беларусь зарегистрировано 104 ВИЧ-инфицированных и больных СПИДом, из них 7 детей до 10 лет. Умерло 7 человек. Среди инфицированных 71 мужчина и 33 женщины, в г. Минске и Минской области 77 человек поражены вирусом СПИДа.

На сегодняшний день ни один больной этой "чумой" не излечен. Медицинскими работниками области совместно с заинтересованными ведомствами проводится большая работа по лабораторному обследованию на СПИД групп риска, профилактике профессионального и внутрибольничного инфицирования, обучению населения мерам предупреждения этой болезни. С начала этого года лабораторно обследовано более 100 тыс. человек, выявлено 334 человека с сероконверсией, которые находятся под медицинским наблюдением.

В соответствии с постановлением Совета Министров Республики Беларусь "О мерах по профилактике СПИДа в Республике Беларусь" разработаны и утверждены исполкомом областного Совета аналогичные мероприятия на 1994—1995 гг., где предусмотрены конкретные меры по профилактике СПИДа для всех заинтересованных ведомств. Проведена учеба медработников, работников парикмахерских, гостиниц, учащихся и др. по профилактике ВИЧ-инфекции. В области открыты и функционируют 8 диагностических лабораторий по СПИДу в Молодечно, Борисове, Солигорске, Слуцке, Вилейке, Столбцах, Марьиной Горке и при областном центре гигиены и эпидемиологии в г. Минске.

Желающие обследоваться на СПИД, в том числе анонимно, могут обращаться в любое лечебно-профилактическое учреждение области и через 2—3 дня получат результат исследования.

К сожалению, средства массовой информации недостаточно активно участвуют в пропаганде мер профилактики СПИДа. Мало наглядной агитации на вокзалах, в кинотеатрах, учебных заведениях. Медики испытывают трудности с обеспечением диагностическими тест-системами, лабораторным оборудованием, шприцами разового пользования, моющими и дезинфицирующими средствами, стерилизационной техникой.

СПИД — забота общая. Одним медицинским работникам с этой бедой не справиться.

*Виталий ПИВНЕНКО, зав. отделом профилактики СПИДа Минского областного центра гигиены и эпидемиологии.*

